І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Сакавік 2014

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага регіёну




## Руская мова на майках футбольнага "Нёмана": што пра гэта думаюць заўзятары

стар. 4

### Выбух кватэры ў Гомелі: два чалавекі пацярпелі

стар. 6

### Пенсіянер «замініраваў» тры крамы і некалькі дамоў у Гомелі

стар. 3

### У Гомелі ў выніку выбуху разбураны жылы дом

стар. 6

# Улады Берасцейшчыны паабяцалі выканаць вулічныя шыльды ў двух мовах

***Каардынатар грамадскай ініцыятывы “Справаводства па-беларуску” Ігар Случак атрымаў адказ з Берасцейскага аблвыканкама. Некалькі месяцаў таму ён разаслаў ва ўсе абл- і райвыканкамы зварот, у якім заклікаў мясцовыя ўлады выкарыстоўваць на шыльдах і ўказальніках дзве дзяржаўныя мовы – беларускую і расейскую. Берасцейскі аблвыканкам паабяцаў гэта выканаць.***

Кажа Ігар Случак:

- Спачатку з Берасцейскага аблвыканкама прыходзіў адказ, што яны нашае пытанне разгледзяць. А пасля, калі прайшоў некаторы час, яны сказалі, што нашая прапанова ўключаная ў план святкавання 1000-годдзя горада Берасця. І будуць вулічныя шыльды і ўказальнікі на двух дзяржаўных мовах.

Сам Ігар Случак зараз актыўна заняты ў выбарчай кампаніі – ён зарэгістраваны кандыдатам у дэпутаты Гомельскага аблвыканкаму. Ігару 27 гадоў, сваю ініцыятыўную групу ён набраў у сацыяльнай сетцы “ВКонтакте”, акругу, па якой вылучаецца, таксама выбіралі карыстальнікі інтэрнэту праз галасаванне.




*Васіль Кроква, Беларускае Радыё Рацыя*

# Расейскія сцяжкі ў беларускіх аўтобусах

***Услед за Менскам людзі, якія раздаюць расейскія сцяжкі на вуліцы, з’явіліся і ў Гомелі. Гэтыя сцяжкі апынуліся нават у грамадскім транспарце – кіроўцы вешаюць іх на лабавое шкло аўтобусаў.***

Каардынатар грамадскай кампаніі “Справаводства па-беларуску” Ігар Случак з гэтай нагоды напісаў скаргу ў мясцовы аўтапарк:

- Напісаў у аўтапарк, каб яны прынялі меры і прыбралі гэтыя сцяжкі з лабавога шкла аўтобусаў, бо гэта парушэнне нават правілаў перавозкі пасажыраў, гэта можа паўплываць на бяспеку грамадзян.

Ігар Случак паведаміў, што падобныя сцяжкі і раней ён назіраў у гомельскіх аўтобусах, але іх колькасць павялічылася пасля расейска-ўкраінскага канфлікту.

*Васіль Кроква, Беларускае Радыё Рацыя*






# Пракуратура абвінавачвае кіраўніцтва «Гомельшпалераў» у залішняй дабрыні да работнікаў

***Супрацоўнікі сістэматычна спазняліся на працу, пакідалі працоўныя месцы раней, адсутнічалі без прычын, аднак кіраўніцтва на гэта ніяк не рэагавала.***

Больш за тое, кіраўніцтва «Гомельшпалераў» не спаганяла пакрыцця шкоды з работнікаў, з прычыны дзеяння якіх прадпрыемства матэрыяльна пацярпела. Справа ў тым, што згодна з патрабаваннямі арт.400 Працоўнага кодэкса і калектыўнай дамовы прадпрыемства прадугледжанае прыцягненне да матэрыяльнай адказнасці работнікаў за нанесеную па іх віне шкоду, аднак меры па спагнанні не прымаліся.

Акрамя таго, не заўсёды выконваліся патрабаванні Палажэння аб парадку вядзення справаводства па зваротах грамадзян і юрыдычных асоб у дзяржаўных органах, іншых арганізацыях, у індывідуальных прадпрымальнікаў, зацверджанага пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30.12.2011 №1786.

Пракуратурай Гомельскай вобласці дырэктару вытворчага ўнітарнага прадпрыемства «Гомельшпалеры» ўнесена прадстаўленне з патрабаваннем ліквідаваць парушэнні заканадаўства і прыняць меры па кампенсацыі шкоды, нанесенай дзеяннямі работнікаў.

Па выніках яго разгляду да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнутыя 3 службовыя асобы, у суд пададзены пазоў аб спагнанні з вінаватых сумы выплачанага прадпрыемствам адміністрацыйнага штрафу.

*region.ej.by*







# Пенсіянер «замініраваў» тры крамы і некалькі дамоў у Гомелі

***Гомельскі гарадскі аддзел упраўлення следчага камітэта па Гомельсай вобласці распачаў крымінальную справу за «заведама непраўдзівае паведамленне аб небяспецы» ў дачыненні да 63-гадовага пенсіянера.***

9 сакавіка мужчына патэлефанаваў са свайго мабільнага ў службу 102, назваўся і паведаміў, што магазін па вуліцы Брэсцкай у Гомелі будзе ўзарваны, і папрасіў прыняць меры па ратаванні людзей.

Як паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава, міліцыя эвакуявала людзей з трох магазінаў і бліжэйшых дамоў, бо мужчына не назваў канкрэтны магазін, у якім нібыта закладзена выбуховая прылада. Група размініравання выбуховых прылад не знайшла.

Пасля ўстанаўлення асобы мужчына быў затрыманы і змешчаны ў ізалятар. Раней не судзімы пенсіянер знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення і не змог растлумачыць свой учынак.

Следства ўстанаўлівае матывы тэлефанавання пенсіянера, дапытваюцца сведкі.

*БелаПАН*



ГумНо СПАРТЫЎНАЕ

# Руская мова на майках футбольнага“Нёмана”: што пра гэта думаюць заўзятары

***У штабе гарадзенцаў праходзіла галасаванне з удзелам кіраўніцтва клуба, трэнерскага штаба і гульцоў. У выніку каманда вырашыла, што ў новым сезоне прозвішчы на гульнявых майках будуць, як і раней, нанесеныя на рускай мове. “Твой стыль” даведаўся меркаванні заўзятараў. Нагадаем, у галасаванні каманды прынялі ўдзел 34 чалавекі: 22 прагаласавалі за рускую мову і 12 – за беларускую. Варта адзначыць, што ва ўсёй Беларусі толькі адна каманда можа пахваліцца беларускамоўным напісаннем прозвішчаў. Гэта брэсцкае “Дынама”. На жаль, наша каманда зрабіла выбар, але меркаванні балельшчыкаў не ўлічыла. Але ж заўзятары гэта неад’емная частка каманды і да іх думак таксама трэба прыслухоўвацца. Мы звязаліся з некаторымі з іх.***

*Сяржук Аляксееў “Залатнік”, у мінулым годзе наведаў усе матчы “Нёмана”, як хатнія, так і выязныя*

- Усе гэтыя дыспуты наконт мовы напісання прозвішчаў на майках маглі б быць хутка вырашаныя, калі б футбольная федэрацыя прапанавала адзіныя рэкамендацыі. Лічу, што на майках “Нёмана” прозвішчы павінны быць напісаныя па-беларуску, таму што Гродна – гэта самае беларускае месца ў краіне. На жаль, сёння ў авангардзе “футбольнай беларусізацыі” ідзе не наш горад, а невялікае правінцыйнае Жодзіна, дзе акрамя надпісаў беларуская мова выкарыстоўваецца і дыктарам на стадыёне. Нешта подобнае адбываецца і ў Гомелі – гучыць сапраўды прыгожа. Праведзенае галасаванне выглядае далі празрыстым. Але акрамя футбалістаў і іншых функцыянераў есць яшчэ спонсары і простыя прыхільнікі футболу, якія плацяць грошы і таксама маюць права голасу.




*Аляксандр, заўзятар “Нёмана” з 25-гадовым стажам*

- Я негатыўна стаўлюся да выбару гульцоў. З аднаго боку прыемна, што ў камандзе знайшлося ажно 12 разумных чалавек, але мне падаецца, што моўныя апытанні на Беларусі маюць сэнс толькі для сацыёлагаў. Беларускае грамадства ментальна вельмі слабое і моцна русіфікаванае, каб прымаць падобныя рашэнні. Таму не мае сэнсу рабіць галасавання ні сярод футбалістаў, ні сярод заўзятараў – вынік вядомы заранёў. У гэтай сітуацыі вельмі важная роля ўскладаецца на кіраўнікоў клубаў і федэрацыі. Ці хопіць у іх розуму і мужнасці, каб напоўніць наш чэмпіянат “водарам беларускасці” ці “пойдут проторенной дорогой” як федэрацыя хакею?

*Зміцер, грамадскі дзеяч, заўзятар “Нёмана”*

- Пытанне мовы для мяне не можа вырашацца закрытым галасаваннем, таму было б больш карысным, каб мы ведалі, хто з гульцоў падтрымлівае той ці іншы варыянт. Але, па вялікім рахунку, гэта не пытанні гульцоў – яны кантрактнікі клуба, а не ўласнікі, таму і пытанні трэба вырашаць на іншым узроўні, а прыслухоўвацца, канешне, трэба і да гульцоў, і да фанатаў, і да спонсараў. Асабіста я лічу, што беларускі спорт павінен быць беларускамоўным, хаця б таму, што пераможцы спяваюць

## Руская мова на майках футбольнага“Нёмана”: што пра гэта думаюць заўзятары. Працяг

гімн на беларускай мове, а іншага няма і не можа быць.

По каментары мы звярнуліся таксама да вядомых спартыўных аглядальнікаў.

*Яўген Лебедзь, спартыўны аглядальнік газеты “Вячэрні Гродна”*

- Мне не падабаецца, што вакол гэтай гісторыі з мовай узнялі такі шум. Так, я згодны, што ў гэтым выпадку трэба было вызначыць меркванне гледачоў, бо на кожным кроку кіраванне клуба кажа, што футбол для заўзятараў. І гэтае рашэнне азначае, што прыслухоўвацца да гледачоў у “Нёмане” пакуль не навучыліся. Але рабіць трагедыю з гэтага нельга. Гульцы і трэнеры выказалі сваё меркаванне. І калі ім руская мова зручней на кашулях, значыць гэта праўда і яны не падрыхтаваныя да змен.

*Ігар Петрулевіч, журналіст спартыўнага партала tribuna.by*

- Галасаванне гэта выдатна. Дэмакратыя, як той казаў. Мне падабаецца, калі ў камандзе так выбіраюць капітана, да прыкладу. Гэтым жа спосабам у “Нёмане” вырашылі вызначыцца з мовай прозвішчаў на майках. Бязмерна паважаю футбалістаў і трэнераў гарадзенскага футбола, але мне здаецца, гэта не яны павінны вырашаць. Не думаю, што яны надавалі вялікае значэнне гэтаму пытанню. Для іх галоўнае – аддаваць перадачы, забіваць галы. За такімі рэчамі, як мова, прозвішчы на майках, павінен сачыць мэнеджмент клуба. Выбар мовы – праца на імідж каманды. Гэта вельмі важная справа. Паглядзіце, колькі ўжо каментарыяў сабрала гэтая навіна ў розных СМІ. І, мяркуючы па рэакцыі, у цяперашніх умовах трэба было зрабіць выбар на карысць мовы. Сярод футбалістаў нам удалося звязацца толькі з Максімам Вітусам: - У краіны ёсць свая родная мова. Яе трэба развіваць і выкарыстоўваць. Як і ў якой колькасці – вырашаць кожнаму. У родным спорце можна было б выкарыстоўваць прозвішчы і на беларускай мове. Тыя, каму не падабаецца, з часам і так прывыклі б ды, упэўнены, убачылі б свае плюсы ў гэтым!

*Руслан Кулевіч, Твой стыль*




## Ігар Случак спрабуе беларусізаваць айчынны футбол

***Каардынатар кампаніі "Справаводства па-беларуску" Ігар Случак спрабуе беларусізаваць айчынны футбол. Ён звяртаецца да адміністрацыяў футбольных клубаў з просьбай пашыраць ужыванне беларускай мовы.***



- Звярнуўся да клубаў Вышэйшай лігі і Першай лігі. Ужо пачалі прыходзіць адказы з “Дынама” (Менск), з “Гарадзеі” і з “Бярозы”. Добры адказ прыйшоў з “Гарадзеі”, там як і ў Гомелі дыктар матчы каментуе ўжо на беларускай мове, але праз фінансавыя цяжкасці яны не могуць яшчэ на цішотках змясціць беларускамоўныя надпісы. Паабяцалі, што будуць выкарыстоўваць беларускую мову ў прэсе.

Паводле інфармацыі Ігара Случака, у новым футбольным сезоне заўзятарам наўрад ці пашчасціць убачыць сваіх гульцоў у футболках з беларускамоўнымі надпісамі. Нават тыя клубы, якія нібыта далі згоду на размяшчэнне беларускіх варыянтаў прозвішчаў, пакінулі надпісы рускамоўнымі.

*Беларускае Радыё Рацыя*

## Хакейны клуб «Ліда»: Мы працуем па-руску, просім не турбаваць з гэтай нагоды

***Каардынатар кампаніі «Справаводства па-беларуску» Ігар Случак атрымаў адказ ад хакейнага клуба «Ліда».***

Каардынатар кампаніі «Справаводства па-беларуску» Ігар Случак атрымаў адказ ад хакейнага клуба «Ліда».

Ён прапаноўваў кіраўніцтву «Ліды», каб па-беларуску былі выкананыя надпісы на форме гульцоў, рабіліся абвяшчэнні дыктара на арэне, а таксама каб была створана беларускамоўная версія сайта.

У парушэнне закона адказ прыйшоў па-руску. У ім старшыня праўлення «Ліды» Крыскін заявіў, што на сёння яго арганізацыі зручней ажыццяўляць сваю дзейнасць з выкарыстаннем рускай мовы.

Напрыканцы адказа Крыскін папрасіў «больш не турбаваць па дадзеным пытанні».

*nn.by*

## Выбух кватэры ў Гомелі: два чалавекі пацярпелі

***2 сакавіка ў 09.10 на спецлінію «102» паступіла паведамленне аб выбуху кватэры на першым паверсе шматпавярховага дома па вуліцы «60 год СССР» у Савецкім раёне Гомеля. Да месца надзвычайнага здарэння прыбылі ратавальнікі, міліцыя, супрацоўнікі Следчага камітэта, хуткай дапамогі, вайскоўцы вайсковай часткі №5525.***

Як паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава, пры выбуху пацярпелі мужчына 1963 года нараджэння і жанчына 1981 года нараджэння, якія пражываюць у кватэры. Яны з апёкамі дастаўлены ў бальніцу.

Гомельскі гарадскі аддзел СК праводзіць праверку па гэтым факце. Разглядаецца некалькі версій прычын НЗ, адна з якіх — парушэнне правілаў эксплуатацыі электрапрыбораў.

*БелаПАН*

## Прозвішчы футбалістаў "Нёмана" на майках у гэтым сезоне будуць напісаныя па-руску

У час працы гарадзенскіх футбалістаў у трэнажорнай зале прайшло галасаванне па выбару мовы, на якой будуць напісаныя прозвішчы гульцоў на майках у сезоне 2014 года. Кожны прагаласаваў пісьмова – агулам 34 чалавекі, улічваючы гульцоў, трэнерскі штаб і кіраўніцтва клуба. У выніку 22 галасы былі аддадзеныя за рускую мову і 12 за беларускую, паведамляе прэс-служба клуба. З пытаннем пра выкарыстанне беларускай мовы клубам звяртаўся да "Нёмана" ў мінулым годзе актывіст Ігар Случак. У яго засталіся прыемныя ўражанні ад кантакту з "Нёманам". Тады, між іншым, на пытанне пра прозвішчы на майках быў дадзены адказ, што друк новых даволі каштоўны, таму ў сезоне 2013 года надпісы застануцца рускімі.

*Аляксей Табяшэўскі, Твой стыль*

## У Гомелі ў выніку выбуху разбураны жылы дом

У Гомелі ў на вуліцы імя Лепяшынскага ў выніку выбуху разбураны жылы дом.

Паводле папярэдніх звестак, прычынай выбуху стаў балон з газам. Гаспадар дома з 50% апёкамі цела дастаўлены ў бальніцу.

*БелТА*



# Кандыдат у дэпутаты з Гомлю атрымаў грошы ва Украіне за жарты пра свіней

***Адзін з кандыдатаў на дэпутацтва ў Гомельскім гарсавеце Аляксандр Сацура перамог ва ўкраінскім тэлешоў «Насмяшы коміка».***




Жартаўлівыя песенькі маладзёна пра жывёлінаў ды ягоная артыстычнасць прынеслі Аляксандру 10 тыс грыўнаў (каля $ 1 тыс).

Вядоўца праграмы запытаў хлопца, ці прозвішча «Сацура» - японскае. Аляксандр жа адказаў: «Не, беларускае, чыстае, сваё, радное. Сацура абазначае, што ў майго баці ў вёсцы ўсе былі Сацуры, карацей».

Аляксандр Сацура – кандыдат на дэпутацтва ў Гомельскі гарсавет па Моладзевай акрузе №30. Кіраўнік ягонай кампаніі – вядомы грамадскі актывіст, ініцыятар грамадзянскай ініцыятывы «Справаводства па-беларуску» Ігар Случак.

Раней Аляксандр выступаў ва ўкраінскім конкурсе талентаў “Х-фактар”, дзе скарыў журы і гледачоў беларускамоўнай версіяй гіта «Beggin» ад «Мэдкан» «Да цябе я еду, бэйба, у Брагін».

*belsat.eu*

## Ігар Случак: Толькі асобныя дэпутаты ставяцца больш-менш з разуменнем

У беларускіх законах павінна быць дакладна пазначана, што ўказальнікі, рэклама, дакументы, законы ў Беларусі абавязкова павінны дубляваца на двух дзяржаўных мовах. Так лічыць каардынатар грамадскай ініцыятывы “Справаводства па-беларуску” Ігар Случак:

- Вяду перапіску з дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў наконт таго, каб унеслі змены ў закон аб мовах, каб законы, рэклама, указальнікі і гэтак далей, заўсёды пісаліся на беларускай і расейскай мовах, а не так, як зараз, што на беларускай і (або) расейскай мовах.

Праўда, як кажа Ігар Случак, большасць дэпутатаў пішуць як пад капірку, што гэта немэтазгодна, павялічвае аб’ём “папяровай” працы і выдаткаў. І толькі асобныя дэпутаты ставяцца больш-менш з разуменнем да гэтага пытання.

*Васіль Кроква, Беларускае Радыё Рацыя*



## Асудзілі братоў, якія збілі міліцыянта і скралі яго аўто

***Супрацоўнікі Кармянскага РАУСа дзяжурылі, калі іх увагу прыцягнуў аўтамабіль «ВАЗ-2103». Кіроўца не спыніўся на іх патрабаванні. Пачаліся «даганялкі». У адной з вёсак з машыны выскачыла п'яная кампанія і кінулася ўцякаць.***

Аднаго з хлопцаў міліцыянт дагнаў. Але яму на дапамогу падбег стрыечны брат. Пачалася бойка. У міліцыянта браты скралі мабільнік і ліхтарык. А затым уселіся ў міліцэйскае аўто і з'ехалі. Праўда, па дарозе машына перакулілася, а злодзеі ўцяклі. Затрымалі іх на наступны дзень.

Як паведаміў міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч падчас «прамой лініі» ў рэдакцыі «Савецкай Беларусі», аднаго брата асудзілі на пяць гадоў калоніі строгага рэжыму, другога — на два з паловай гады ўзмоцненага рэжыму. Трэці хлопец з кампаніі, які пры затрыманні толькі ўцякаў, але не біўся, атрымаў штраф.

*nn.by*

## У Гомелі затрымалі 31-гадовага злодзея з бюстгалтарамі

***У адной з крам на праспекце Перамогі ў Гомелі 13 сакавіка быў затрыманы мужчына, які спрабаваў адкрыта вынесці, не аплаціўшы, чатыры бюстгалтары, паведамляе odsgomel.org са спасылкай на інфармацыю УУС Гомельскага аблвыканкама.***

У дачыненні да 31-гадовага жыхара Гомеля распачалі крымінальную справу.

*nn.by*

## У Гомелі праваахоўнікі зачынілі адзін з найбуйнейшых клубаў горада

***У Гомелі праваахоўныя органы зачынілі адзін з найбуйнейшых мясцовых клубаў — «Еўропа». Па словах аднаго з работнікаў установы, гэта адбылося яшчэ ў чацвер, 27 сакавіка, пасля візіту нейкіх сілавікоў.***

У Гомелі праваахоўнікі зачынілі адзін з найбуйнейшых клубаў горада

«Прыйшлі людзі ў масках і з аўтаматамі — абышлі ўвесь комплекс, — распавяла крыніца на ўмовах ананімнасці. — Затым усіх, хто быў: і персанал, і наведвальнікаў — сабралі ў «Cafe De Paris» (уваходзіць у склад КЗЦ) і перапісалі звесткі з пашпартоў. Пасля чаго ўсіх адпусцілі, акрамя кіраўніка персаналу і сказалі, што клуб «зачыняецца на праверку». Усё. Аб канкрэтных прычынах ніхто нічога не ведае — нават чутак няма.

У нядзелю ўвечары на дзвярах пустога комплексу вісела аб'ява аб закрыцці па тэхнічных прычынах і выбачэннямі перад наведвальнікамі за нязручнасці.

На галоўнай старонцы сайта КЗЦ апошняя навіна датаваная 10 студзеня і запрашае на бясплатнае навучанне ў школу круп'е юнакоў і дзяўчат ва ўзросце ад 18 да 24 гадоў. Пры гэтым ні адзін з указаных на сайце кантактных тэлефонаў не адказвае.

Яшчэ ў пачатку мінулага тыдня ўстанова функцыянавала ў звычайным рэжыме, а ў канцы пазамінулага правяло клубны конкурс прыгажосці «Міс Еўропа». Сярод членаў журы прысутнічаў і дырэктар КЗЦ Мікалай Пятроўскі.

Па звестках з некалькіх неафіцыйных крыніц, сілавікамі, што закрылі «Еўропу», былі супрацоўнікі дзяржбяспекі.

Магчыма, прычына іх цікавасці — нейкія фінансавыя правапарушэнні ў дзейнасці КЗЦ. Нібыта падчас наведвання клуба ці то з службовых камп'ютараў, ці то з гульнявых аўтаматаў канфіскоўваліся носьбіты інфармацыі.

У ЦІГС КДБ Беларусі ад каментароў з гэтай нагоды пакуль устрымліваюцца, запэўніваючы, што калі паступіць афіцыйная інфармацыя, яе паведамяць.

*tut.by*


M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Сакавік 2014»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2013"

Надрукавана на паперовай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva
***Вольга Пыхава:*** http://vk.com/volha_pyhava

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com
Наш ***сайт***: gnavinki.com

M&S MEDIA